# З МЁРТВАГА ПУНКТА ЗРУШЫЛІСЯ — КАНСТАТУЕ СТАТЫСТЫКА І ЎРАД

**Аднак поўнай выплаты заработнай платы, па меркаванню прэм'ер-міністра, ужо ніколі не будзе; прадпрыемствы павінны выкарыстаць перадышку, якую дасць урад, увёўшы павышаныя мытныя пошліны на імпартныя тавары, для выхаду з крызісу; на неардынарныя меры з боку дзяржавы ў падтрымцы вытворчасці прадпрыемствы разлічваць не павінны.**

У сераду, 16 ліпеня, кіраўнік Кабінета Міністраў Міхаіл Чыгір правёў сустрэчу з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі, на якой паведаміў аб выніках дзейнасці народнай гаспадаркі за першае паўгоддзе. Насуперак песімістычным прагнозам, адзначыў прэм'ер-міністр, прамысловасць спрацавала на «здавальняюча». Складанасці ў вытворчасці былі ў першым квартале, што М. Чыгір звязаў з жорсткімі кліматычнымі ўмовамі, аднак у другім квартале адбылося паляпшэнне сітуацыі, у выніку чаго за паўгоддзе па шэрагу пазіцый з'явіліся паказчыкі прыросту.

Асноўны паказчык развіцця эканомікі — аб'ём валавога ўнутранага прадукту — амаль не знізіўся ў параўнанні з мінулым годам і склаў 70,3 трлн. рублёў. Інфляцыя запавольваецца: калі ў першым квартале яе тэмпы былі яшчэ даволі высокія, то ў маі яе ўзровень склаў 0,6 працэнта — паказчык, якога ўдалося дасягнуць упершыню за пяць гадоў. Павелічэнне аб'ёму ў прамысловасці адбылося на 1,6 працэнта, рост прадукцыйнасці працы на 11,1 працэнта. Плануемыя аб'ёмы вытворчасці выканалі ўсе вобласці, за выключэннем сталіцы, а з паказчыкамі прыросту закончылі паўгоддзе 58 працэнтаў прадпрыемстваў рэспублікі. Разам з тым прэм'ер-міністр прызнаў, што праблема нерэалізаванай прадукцыі вельмі хвалюе ўрад. У бліжэйшы час будуць разглядацца прычыны накаплення рэштак прадукцыі і магчымасці разгрузкі складоў. Па стану на 1 ліпеня на складах знаходзілася прадукцыі на суму 10,8 трлн. рублёў, узровень рэалізацыі за паўгоддзе ў прамысловасці склаў 83,8 працэнта ад агульнай колькасці вырабленага.

Міхаіл Чыгір адзначыў, што ў другім квартале намецілася тэндэнцыя да «выздараўлення» ў лёгкай прамысловасці, хаця па паўгоддзю яшчэ канстатуецца спад. Урад выказвае спадзяванне, што гэтая буйная галіна са стану шоку ўжо выйшла і будзе паступова нарошчваць аб'ёмы вытворчасці.

З аптымістычных вынікаў кіраўнік урада назваў яшчэ працу нафтахімічнай і хімічнай галіны, паліўнай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці, машынабудаўнічай галіны. За шэсць месяцаў бягучага года павялічыўся рознічны гандлёвы абарот на 9 працэнтаў, а таксама аб'ём платных паслуг насельніцтву на 20 працэнтаў, дзе доўгі час адбывалася скарачэнне.

У сельскай гаспадарцы амаль тыя ж паказчыкі, што і ў мінулым годзе: узровень надояў не знізіўся, з прыбаўленнем у вазе жывёлы засталіся праблемы, але ў птушкагадоўлі — прарыў. Гэтая галіна ўпершыню выйшла на самаакупнасць, паспяхова працуе як на айчынным, так і на расійскім рынку, пацясніўшы там фінскіх вытворцаў. Як адзначыў М. Чыгір, гэта дае магчымасць галіне выжыць у рыначных умовах.

Як прыйдзецца ў гэтых жа ўмовах астатнім, прадбачыць складана. Паведамляючы аб дзесятках мільярдаў даўгоў буйных прадпрыемстваў, прэм'ер-міністр сказаў, што магчымы неардынарныя рашэнні ў адносінах да некаторых вытворцаў, як, напрыклад, адбылося з «Гарызонтам» і «Фандокам». Аднак пазіцыя ўрада вельмі жорсткая. Разлічваць на дапамогу зверху прамыслоўцы могуць толькі пры ўмове пераходу на дзяржаўную тарыфную сетку і выпрацоўцы і рэалізацыі мераў па выхаду з крызіснай сітуацыі. «За сродкі бюджэту прадпрыемствы не выратаваць», — адзначыў М. Чыгір. І прывёў прыклад: выратаванне «Карала» скончылася стратай грошай і ўпэўненасцю, што ўласнымі сродкамі паправіць становішча немагчыма. Урад можа падтрымаць адно-два прадпрыемствы, але не выратаваць галіну ў цэлым. Патрэбны новыя тэхналогіі, замежныя інвестыцыі, а не ўкладанні сродкаў у вытворчасць неканкурэнтаздольнай прадукцыі.

Узнікаюць праблемы і з інвентаром. Па словах спадара Чыгіра, на беларускі рынак гатовы прыйсці многія. Аднак патэнцыяльныя інвестары патрабуюць вялікіх ільгот, з чым мы пагадзіцца ніяк не можам.

Кіраўніцтва краіны не мае права не ўмешвацца ў цяперашнюю сітуацыю. Колькасць стратных прадпрыемстваў на пачатку года была роўная 1 тысячы 571, па стану на 1 ліпеня стратныя ўжо 2 тысячы 662.

Кіраўнік урада пагадзіўся, што ўмовы жыцця сёння складаныя. Аднак лічбы — рэч упартая, і афіцыйная статыстыка сцвярджае, што заработная плата за паўгоддзе павялічылася на 2 працэнты. Хаця тая ж статыстыка канстатуе, што рэальныя даходы насельніцтва знізіліся на 3 працэнты. Па пытанню выплаты заработнай платы ў тэрмін Міхаіл Мікалаевіч песімістычна прагназіраваў: «Калі мы заявілі аб рыначнай эканоміцы, то поўнай выплаты зарплаты, напэўна, не будзе больш ніколі». Гэтае пытанне днямі будзе вырашацца сумесна з прафсаюзамі, але разлічваць на станоўчыя вынікі не прыходзіцца.

Кіраўніцтва краіны заклапочана ростам аб'ёмаў імпарту на тэрыторыю рэспублікі ў параўнанні з аб'ёмам экспарту. Гэта выклікае павелічэнне дэфіцыту гандлёвага балансу і за 5 месяцаў бягучага года адмоўнае сальда склала 645,2 мільёна долараў. Кіраўніцтва плануе прыняць рашучыя меры па скарачэнню паступлення імпартных тавараў на тэрыторыю рэспублікі. Адзін з варыянтаў — павелічэнне мытных пошлін. Гэтае пытанне будзе абмяркоўвацца падчас прыезду днямі віцэ-прэм'ера Расіі Аляксея Бальшакова. Калі кіраўніцтва Расіі не пойдзе на такі крок, ёсць яшчэ адзін спосаб абароны беларускіх вытворцаў: увядзенне падатку з рэалізацыі імпартнай прадукцыі. Аднак апошні не можа быць высокім, бо тады беларускі пакупнік паедзе ў Расію, дзе гэтыя тавары будуць таннейшымі. Мытныя пошліны ўрад плануе павялічыць на значную колькасць тавараў народнага спажывання: мэблю, электроніку, абутак, трыкатаж, прадукты харчавання. Але гэта не прычына ўздыхнуць з палёгкай айчынным вытворцам: такая мера будзе часовай і праз пэўны час пошліны на імпартныя тавары зноў будуць зніжаны. Па меркаванню прэм'ер-міністра, гэты час вытворцы павінны выкарыстаць для паляпшэння свайго становішча.

Адказваючы на пытанні журналістаў, Міхаіл Чыгір растлумачыў, што пагадненне аб «нулявым варыянце» паміж Беларуссю і Расіяй падпісана, але зараз адбываецца рабочы працэс, калі ўзнікаюць некаторыя пытанні. Аднак яны вырашаюцца, і ў хуткім часе аперацыі па «абнуленню» будуць даведзены да канца.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# ПАЎДНЁВАКАРЭЙСКІ «ТЫГР» СКОКНУЎ...

## У Мінску адкрыўся спецыялізаваны магазін фірмы «Самсунг»

**У стратэгічным плане адна з вядучых у свеце электронных кампаній Самсунг Электронікс мае намер скокнуць... у XXI стагоддзе. З гэтай мэтай фірма прыкладае максімум намаганняў, каб падтрымліваць пастаянна высокія тэмпы росту і развіцця свайго бізнесу.**

А ў тактычным плане пакуль «Самсунг» скокнуў на Беларусь. Пра сустрэчы і гутаркі прадстаўнікоў фірмы з вышэйшым кіраўніцтвам дзяржавы ўжо шырока паведамлялася. Магчыма, гэтыя гутаркі выльюцца ў выгадныя і вельмі патрэбныя для нашай эканомікі істотныя інвестыцыі. А пакуль Самсунг Электронікс для пачатку вырашыў з вядомай беларускай фірмай РАМПО разам адкрыць у Мінску на праспекце Машэрава свой фірменны салон-магазін, дзе ўжо прадаюцца тэлевізары, аўдыё-відэамагнітафоны, бытавыя прыборы і аргтэхніка.

Гэты першы вопыт сумеснай дзейнасці з РАМПО аказаўся плённым. Генеральны дырэктар Самсунга па СНД Чунг Іл Янг не хаваў свайго здзіўлення і задавальнення тымі надзвычай сціслымі тэрмінамі, у якія быў адкрыты фірменны магазін.

Адна з яго асаблівасцей — сервіснае абслугоўванне, якое па запэўненню карэйцаў будзе ажыццяўляцца па высокаму класу. Важная акалічнасць: у магазіне будзе выконвацца гарантыйны рамонт вырабаў Самсунга, якія былі набыты за межамі Беларусі.

Цэны. Яны на асноўную большасць тавараў будуць прыкладна тыя ж, як у Расіі, іншых былых рэспубліках Савецкага Саюза.

Гэта па ліку ўжо 120-ы фірменны магазін Самсунга ў краінах СНД і Прыбалтыкі. У бліжэйшай перспектыве фірма мяркуе адкрыць яшчэ шэсць магазінаў у Беларусі — па аднаму ў кожным абласным цэнтры. У наступным годзе Самсунг мяркуе давесці аб'ём продажу сваіх тавараў да 30 мільёнаў долараў.

**Леанід ТУГАРЫН.**

*ФУТБОЛ*

# ПАЧАТАК ПАКЛАДЗЕНЫ...

**Паспяховымі можна назваць першыя гульні папярэдняга этапа ў розыгрышы Кубка УЕФА дзвюх сталічных каманд — «Дынама» і «Дынама-93».**

Чэмпіёны Беларусі праводзілі матч у Дубліне супраць мясцовага «Багеміанса». Дэбют для падначаленых Івана Шчокіна атрымаўся даволі сумным. Ужо на 30-й секундзе ірландцы адкрылі лік. Праўда, развіць поспех гаспадарам не ўдалося. Дынамаўцы хутка прыйшлі ў сябе і пачалі дыктаваць сапернікам свае ўмовы гульні. На 18-й хвіліне румынскі суддзя Георге Канстанцін пакідае ірландцаў у меншасці. Першы тайм так і закончыўся 1:0.

У другой палове сустрэчы беларусы ўзмацнілі націск і на 62-й хвіліне Уладзімір Макоўскі аднавіў раўнавагу — 1:1. Нічыйны лік так і застаўся без змен да канца сустрэчы.

Пасля такога выніку на выездзе мінчане маюць выдатныя шанцы паспяхова прайсці папярэдні этап. Матч у адказ пройдзе 24 ліпеня на стадыёне ў Маладзечна, дзе свой першы паядынак з цірaспальскім «Цілігулам» праводзілі футбалісты «Дынама-93».

Мінчане ўсю гульню дамінавалі на полі і за тры хвіліны да канца сустрэчы вялі 3:0. Галы на рахунку ў Аляксандра Сінкаўца — два і Радзіслава Арлоўскага. Праўда, «сухім» лік дынамаўцам утрымаць не ўдалося. Госці на зыходзе гульні змаглі правесці гол прэстыжу, чым пакінулі сабе шанц пазмагацца за выхад у наступны этап Кубка УЕФА. А гэта будзе залежаць ад зыходу гульні ў Цірaспалі, якая пройдзе 24 ліпеня.

**Вось вынікі астатніх сустрэч розыгрышу Кубка УЕФА.**

Жэнес (Эш, Люксембург) — Легія (Варшава, Польшча) — 2:4

Бецэй (Югаславія) — Мура (Славенія) — 0:0

Жальгірыс (Вільнюс, Літва) — Крузейдэрз (Паўн. Ірландыя) — 2:0

Ньютаўн (Уэльс) — Сконта (Рыга, Латвія) — 1:4

Гутнік (Кракаў, Польшча) — Хазры (Азербайджан) — 9:0

Портадаўн (Паўн. Ірландыя) — Вайводзіна (Югаславія) — 0:1

Язз (Фінляндыя) — Готу (Фарэрскія астравы) — 3:1

Акранэс (Ірландыя) — Сількес (Македонія) — 2:0

Хака (Валкеакоскі, Фінляндыя) — Флора (Талін, Эстонія) — 2:2

Дынама (Тбілісі, Грузія) — Грэвенмахер (Люксембург) — 4:0

Макабі (Хайфа, Ізраіль) — Партызан (Бялград, Югаславія) — 0:1

Горыца (Славенія) — Вардар (Скопле, Македонія) — 0:1

Краацыя (Заграб, Харватыя) — Тырана (Албанія) — 4:0

Бейтар (Іерусалім, Ізраіль) — Фларыяна (Мальта) — 3:1

Пюнік (Ерэван, Арменія) — ХІК (Хельсінкі, Фінляндыя) — 3:1

Сандаяр (Фарэры) — Апаэль (Нікасія, Кіпр) — 1:5

Нефтчы (Баку, Азербайджан) — Лакаматыў (Сафія, Балгарыя) — 2:1

Зімбу (Кішынёў, Малдавія) — Хайдук (Спліт, Харватыя) — 0:4

Цеўта (Албанія) — Кошыцэ (Славакія) — 1:4

Анартасіс (Фамагуста, Кіпр) — Шырак (Гюмры, Арменія) — 4:0

Сліема ўондэрэрз (Мальта) — Маргвеці (Зестафоні, Грузія) — 1:3

Славія (Сафія, Балгарыя) — Інкарас-Грыфас (Літва) — 4:3

Астатнія гульні адбыліся 18 чэрвеня. Матчы ў адказ адбудуцца 23-24 ліпеня.

# ЛІДЭРАЎ ЗНОЎ ДВОЕ

Чарговы, 14-ы тур чэмпіянату Беларусі па футболу зноў атрымаўся няпоўным. Мінскія дынамаўцы матч з «Дняпром», як вядома, згулялі два тыдні таму, а сустрэча «Дынама-93» — «Атака-Аўра» з-за ўдзелу першых у розыгрышу Кубка УЕФА, перанесена на больш позні тэрмін.

Мазырскі МВКЦ ва ўпартай барацьбе змог адолець «Маладзечна» — 2:1 і даганяе лідэраў, мінскіх дынамаўцаў. Праўда, палескія футбалісты маюць гульню ў запасе і правядуць яе ў нядзелю, на стадыёне «Дынама» супраць «Атакі-Аўры». Так што ў мазыран ёсць шанц вырвацца наперад.

**Вось вынікі астатніх сустрэч:**

Нафтан — Тарпеда (Мг) — 3:2

Абутнік — Дынама (Бр) — 4:0

Шахцёр — Тарпеда (Мн) — 3:1

Ведрыч — Нёман — 0:2

Белшына — Лакаматыў — 1:0

**Турнірная табліца пасля 14 тураў**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. МВКЦ | 13 | 11 | 0 | 2 | 28–8 | 33 |
| 2. Дынама (Мн) | 14 | 10 | 3 | 1 | 40–12 | 33 |
| 3. Белшына | 14 | 8 | 2 | 4 | 25–17 | 26 |
| 4. Атака-Аўра | 10 | 8 | 0 | 2 | 12–9 | 24 |
| 5. Дынама-93 | 13 | 7 | 3 | 3 | 18–10 | 24 |
| 6. Лакаматыў-96 | 14 | 5 | 6 | 3 | 18–10 | 21 |
| 7. Нафтан | 13 | 6 | 2 | 3 | 18–24 | 20 |
| 8. Днепр | 13 | 5 | 3 | 5 | 12–14 | 18 |
| 9. Маладзечна | 14 | 4 | 4 | 6 | 16–16 | 16 |
| 10. Тарпеда (Мн) | 14 | 4 | 3 | 7 | 13–27 | 15 |
| 11. Дынама (Бр) | 14 | 3 | 6 | 5 | 22–18 | 15 |
| 12. Нёман | 13 | 3 | 4 | 6 | 13–23 | 13 |
| 13. Шахцёр | 13 | 3 | 4 | 6 | 10-22 | 13 |
| 14. Абутнік | 14 | 2 | 4 | 8 | 12–19 | 10 |
| 15. Тарпеда (Мг) | 14 | 2 | 3 | 9 | 16–31 | 9 |
| 16. Ведрыч | 14 | 1 | 3 | 10 | 7–20 | 6 |

Наступны тур пройдзе 26—28 ліпеня.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# ВЫВОЗІЦЬ ВАЛЮТУ МОЖНА, А ЎВОЗІЦЬ ПАКУЛЬ НЕЛЬГА

**Савет дырэктароў Нацбанка абмеркаваў пытанне аб увядзенні часовага парадку прыёму дазволаў на вываз наяўнай замежнай валюты і плацёжных дакументаў у замежнай валюце упаўнаважанымі банкамі Расійскай Федэрацыі.**

Было прынята рашэнне да заключэння пагаднення паміж Цэнтрабанкам Расіі і Нацбанкам Беларусі і мытнымі камітэтамі дзвюх краін увесці часовы парадак, згодна з якім дазваляецца вываз за межы мытнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь наяўнай замежнай валюты і плацежных дакументаў у замежнай валюце на суму звыш 500 USD па дазволах, якія выдаюцца ўпаўнаважанымі банкамі Расіі.

У той жа час Нацбанк Беларусі звярнуўся да Цэнтральнага банка Расіі з прапановай увесці аналагічны парадак у адносінах да беларускіх грамадзян, якія перасякаюць тэрыторыю Расіі і маюць дазвол на вываз валюты, выдадзены упаўнаважанымі банкамі Беларусі.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# БЫЛАЯ ЛАЗНЯ З ГАРЭЛАЧНАЙ СТАНЕ ЛЯЧЭБНІЦАЙ?

**У свой час «Звязда» паведамляла пра скандал, што разгарэўся ў гарадскім пасёлку Смілавічы Чэрвеньскага раёна вакол мясцовай лазні.**

Нагадаем, што жыхары доўгі час цярпелі нязручнасці ад таго, што адзіная пасялковая лазня не працавала. Нарэшце справа скранулася з месца, але, як высветлілася, рамонтныя работы вяліся адной польскай фірмай, якая неўзабаве арганізавала ў лазні цэх... па разліву гарэлкі з гучнай назвай «SMIRNOW».

У рэшце рэшт палякаў з лазні і са Смілавіч, — не без дапамогі праваахоўных органаў, якія зацікавіліся дзейнасцю гарэлачных «бізнесменаў», — «папрасілі». Здавалася б, нарэшце смілаўчане дачакаліся «лёгкай пары» і гарачай вады. Але пакуль мясцовыя ўлады марудзілі, неяк незразумела павялі сябе жыхары. Да гэтага праклінаючы «капіталістаў», з-за якіх простаму чалавеку нават у лазні нельга было памыцца, яны пасля дэмантажу абсталявання хуценька ўзяліся... расцягваць тое, што засталося: ацяпляльныя батарэі, плітку, аконнае шкло і іншае. Па сцвярджэнню відавочцаў, зварка працавала і ўначы, напэўна, выразаючы гаспадарлівым жыхарам бліжэйшых дамоў трубы і батарэі. Таму, напэўна, сапраўды саламонава рашэнне прыняў пасялковы Савет. Крыху пераабсталяваўшы за кошт бюджэту душавыя Смілавіцкага ПТВ-203, ён запрасіў сюды ўсіх жадаючых парыцца. А пусты будынак былой лазні аддалі ў арэнду адной з фірмаў, якая займаецца вытворчасцю лекавага бальзаму «Грааль». Кажуць, што, распрацаваны ў рамках транснацыянальнай праграмы «Чарнобыль — дапамога», ён вельмі патрэбен нам, бо ўтрымлівае шмат лекавых кампанентаў і здольны дапамагаць у лячэнні мноства захворванняў, звязаных з чарнобыльскай аварыяй. Такім чынам зараз будзем спадзявацца на «Грааль»?

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*У СВЕЦЕ*

## *ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

**У ВЫНІКУ КАТАСТРОФЫ БОІНГА-747 ЗАГІНУЛІ 229 ЧАЛАВЕК**

229 чалавек загінулі, у тым ліку 16 школьнікаў, у выніку авіякатастрофы самалёта Боінг-747, які ляцеў з Нью-Йорка ў Парыж. Праз 25 хвілін пасля вылету з аэрапорта імя Кенэдзі самалёт узарваўся і зваліўся ў мора. Відавочцы сцвярджаюць, што лайнер разламаўся напалам, потым на гэтым месцы ўтварыўся вялізны вогненны клубок. Прадстаўнікі авіякампаніі пакуль не называюць прычын катастрофы, а амерыканскія спецслужбы пачалі прапрацоўку версіі аб тэракце.

**ХАМІД ІНАЛАЎ ПАДАЎ У АДСТАЎКУ**

Былы кіраўнік МУС Чачні Хамід Іналаў падаў у адстаўку ў сувязі з узростам і заняў пасаду дарадцы кіраўніка рэспублікі па грамадскай бяспецы.

**У РАСІЮ ПУСЦЯЦЬ НЕ КОЖНАГА**

Дзярждума Расіі прыняла ўчора закон аб парадку выезду і ўезду ў краіну. Закон прадугледжвае максімальны тэрмін абмежавання выезду з Расіі грамадзянам, якія мелі доступ да сакрэтных матэрыялаў, — 10 гадоў. Калі тэрмін нявыезду павялічваецца, грамадзянін мае права абскардзіць гэтае рашэнне ў судзе. Іншаземных грамадзян могуць не пусціць у Расію, калі ў іх няма грошай на пражыванне і дакументаў на ВІЧ-інфіцыраванне, калі іншаземец прыязджае ў Расію больш чым на тры месяцы. Не выпусцяць з краіны злачынцаў і тых, хто ўхіляецца ад уплаты падаткаў.

**«ИЗВЕСТИЯ» АДМОВІЛІСЯ ДРУКАВАЦЬ ЛІСТ КАВАЛЁВА**

Вядомы абаронца правоў грамадзян Сяргей Кавалёў накіраваў адкрыты ліст Барысу Ельцыну і Аляксандру Лебедзю. Ён абвінавачвае іх у тым, што, аднавіўшы вайну ў Чачні, Лебедзь і Ельцын парушылі свае перадвыбарныя абяцанні і ашукалі мільёны людзей, якія прагаласавалі за іх. На думку Кавалёва, такім чынам падарвана як вера расіян у дэмакратыю, так і легітымнасць лідэраў краіны. Агенцтва Рэйтэр паведамляе, што газета «Известия» адмовілася друкаваць ліст Кавалёва. Нагадаем, што Кавалёў ужо больш за тыдзень знаходзіцца ў бальніцы пасля інфаркту.

**ТАМІЛЬСКІЯ СЕПАРАТЫСТЫ ЗНОЎ ВЫСТУПІЛІ СУПРАЦЬ УРАДА**

У Шры-Ланцы прайшлі самыя жорсткія сутыкненні за ўсю гісторыю барацьбы тамільскіх сепаратыстаў за незалежнасць сваёй радзімы, якая пачалася 13 гадоў таму. Карэспандэнт Бі-бі-сі лічыць, што гэтага варта было чакаць пасля таго, як урадавыя войскі захапілі тамільскі цэнтр горад Джафна напрыканцы мінулага года.

**У НАРКАБІЗНЕСЕ БЫЎ ЗАМЕШАНЫ ПІЛОТ ПРЭЗІДЭНТА**

Пашыраецца скандал, звязаны з гандлем наркотыкамі, удзел у якім бяруць вайскоўцы Перу. Чарговая буйная партыя какаіну была знойдзена на адным з суднаў перуанскага вайсковага флоту. Гэта ўжо чацвёрты такі выпадак за апошнія некалькі тыдняў. Апошні раз загад аб правядзенні аперацыі па выяўленню наркотыкаў на вайсковых караблях і ваенна-марскіх базах быў дадзены самім прэзідэнтам Перу. Два месяцы таму былі арыштаваны два афіцэры, сярод якіх апынуўся і асабісты пілот прэзідэнта краіны. У іх самалёце было знойдзена больш за 150 кілаграмаў какаіну.

**ААН ЗМАГАЕЦЦА З ПАЦЯПЛЕННЕМ КЛІМАТУ**

Злучаныя Штаты на чарговай канферэнцыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Жэневе па праблемах клімату запатрабавалі прыняцця больш радыкальных мераў па барацьбе з пацяпленнем зямной атмасферы. Краіны, якія падпісалі кліматычную канвенцыю ААН, павінны ўвесці абавязковую для ўсіх верхнюю мяжу выкіду ў атмасферу двувокісу вугляроду. Новая канвенцыя павінна даць новы імпульс працы кліматычнай камісіі ААН, якая зараз зайшла ў тупік.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## *ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

Ад нечаканых інспекцыйных праверак, якія правялі карабінеры ў неапалітанскіх бальніцах, пацярпелі ў першую чаргу аматары тытуню. Нягледзячы на мноства таблічак з надпісам «Курыць строга забараняецца», у бальнічных калідорах, палатах, дыягнастычных кабінетах і ў лабараторыях карабінеры засталі знянацку нямала людзей, якія курылі. Парушальнікамі аказаліся не толькі наведвальнікі і пацыенты, але і ўрачы і медсёстры.

Размова ў карабінераў была кароткая: штраф — 330 тысяч італьянскіх лір, што роўна прыкладна 200 доларам. Падстава — парушэнне закона аб забароне курэння ў грамадскіх месцах.

**ІТАР-ТАСС.**

*Магнітафоны фірмы «Грундзіг» адзначаюцца высокай якасцю, рэкламацый па іх амаль не паступае. Аднак адзін выпадак аказаўся не падобны ні на што.*

*На завод фірмы паступіў магнітафон. Па словах уладальніка, апарат вёў сябе незразумела. Не маючы батарэек і не будучы падключаным да электрасеткі, ён пачынаў працаваць. А калі яму гэта «надакучвала», мог «адключацца». Аднойчы гаспадар запісаў на плёнку скрыпічны канцэрт. Аднак замест музыкі магнітафон стаў выдаваць гутарку гаспадара з сябрам, хоць яе ніхто не запісваў. Калі плёнку з запісам змясцілі ў іншы магнітафон, загучала запісаная мелодыя. Паставілі зноў на стары — загучала лаянка, гук матора аўтамабіля. На заводзе апарат разабралі, але ён аказаўся ў поўным парадку.*

**«Вельтвохе».**

Гаспадар карпарацыі «Майкрософт» Біл Гейтэ другі год запар прызнаны самым багатым чалавекам планеты сярод прыватных асоб. Яго багацце ацэньваецца ў 18 мільярдаў долараў.

**«Труд».**

# БЕЛАРУСКІЯ МАГІСТРЫ ГДАНЬСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

Першым магістрам эканамічных навук выпуску 1996 года стаў на факультэце знешняга гандлю Гданьскага універсітэта ў Польшчы студэнт з Беларусі Аляксандр Мароз. Выпускнік Гожскай сярэдняй школы Гродзенскага раёна, ён паспяхова закончыў эканамічнае аддзяленне і абараніў дыпломную працу аб ролі ЭКЮ ў міжнароднай валютнай сістэме. Менавіта ў гэтыя дні ва універсітэце ідзе абарона дыпломных прац, і неўзабаве яшчэ чацвёра калег А. Мароза атрымаюць магістарскія званні і стануць прафесіянальнымі эканамістамі. А зямляк Аляксандра Іван Гайдэль — адзіны прадстаўнік Беларусі на гістарычным факультэце — стаў магістрам гістарычных навук.

Гэта першы выпуск беларускіх студэнтаў у Гданьскім універсітэце. А ўсяго сярод 15-тысячнага атрада студэнтаў гэтай навучальнай установы сёння займаецца каля 50 нашых землякоў.

*КРЫМІНАЛ*

# САМАЗВАНЦАМ БЫЦЬ НЯСОЛАДКА...

Усё тайнае калі-небудзь становіцца яўным... Пацвярджэнне таму — выпадак з работнікам Віцебскага чыгуначнага вакзала, якога рука закона спасцігла ў той момант, калі ён гэтага менш за ўсё чакаў. Прычынай для затрымання стаў зварот у Віцебскі АУС на транспарце непрацуючай жыхаркі Малдовы, якая паведаміла, што яшчэ ў кастрычніку мінулага года была спынена на чыгуначных пуцях невядомым (што прадставіўся работнікам міліцыі і прад'явіў пасведчанне чыгуначніка), які патрабаваў з яе штраф за пераход пуцей ва неўстаноўленым месцы. Як паведамілі ў прэс-групе УУС на транспарце, нягледзячы на даўнасць здарэння, самазванец быў хутка вылічаны. Ім аказаўся звычайны манцёр пуцей станцыі «Віцебск». Дзеянні «змагара за парадак» кваліфікаваны як злачынства, а сам ён змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання.

І ўсё ж цікава, як доўга можа жанчына насіць у сабе крыўду?..

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ЗАПУСЦІЛІ КАЗЛА Ў АГАРОД

Маці, якая адлучылася на няпэўны час, папрасіла свайго сына Сяргея Т. пагандляваць замест яе півам. Аматары гэтага пеністага напою, не доўга думаючы, «асвяжылі» новаспечанага прадаўца шклянкай гарэлкі. Ці то спякота, ці то «ёрш» — гарэлка з півам — хутка змарылі Сяргея, і той лёг адпачыць на траўку побач з бочкай.

І тут пачалася ўсеагульная весялосць: кожны, хто хацеў, частаваўся столькі, колькі дазваляў страўнік. Як паведаміла газета «Гомельская праўда», якая напісала пра гэты выпадак, ад вялікіх растрат выратавала міліцыя, якая, апячатаўшы бочку, вымушана была даставіць аслабелага сына ў мазырскі медвыцвярэзнік.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

*З ДАСЬЕ ПРАКУРАТУРЫ*

# СТРЭЛЫ НА ДАРОЗЕ

**Праблемы ў эканоміцы, разбалансаванасць прававой сістэмы, ускладненне крымінагеннай сітуацыі, недастаткова эфектыўныя дзеянні па ўмацаванню законнасці і правапарадку з боку праваахоўных органаў нараджаюць у насельніцтва няўпэўненасць у заўтрашнім дні і незадаволенасць дзейнасцю органаў міліцыі, пракуратуры і суда, а таксама іншых дзяржаўных структур.**

Спрабуючы спыніць злачынныя дзеянні, супрацоўнікі міліцыі ўсё часцей вымушаны прымяняць зброю. Мера вымушаная і ў цэлым абгрунтаваная. Аднак пры гэтым нямала выпадкаў, калі пацярпеўшымі становяцца грамадзяне, якія не маюць ніякіх адносінаў да правапарушальнікаў.

Органы пракуратуры, ажыццяўляючы нагляд за выкананнем законаў у цэлым, у тым ліку і супрацоўнікамі міліцыі, трапляюць у даволі складаныя сітуацыі. Грамадзяне закідваюць пракуратуру скаргамі на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі, якія, на іх думку, незаконна прымянялі ў адносінах да іх зброю, пры гэтым нанеслі цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці. У сваю чаргу і супрацоўнікі міліцыі, лічачы свае дзеянні законнымі, вельмі «хваравіта» рэагуюць на ўстаноўлены законам абавязак пракурораў разабрацца ў кожным канкрэтным выпадку.

Паколькі праблема асабліва абвастрылася ў апошні час, на мінулай калегіі Пракуратуры Рэспублікі Беларусь былі разгледжаны вынікі прымянення зброі супрацоўнікамі міліцыі, якія выклікалі гібель ці нанясенне цялесных пашкоджанняў пацярпеўшым.

У адпаведнасці з статыстычнымі данымі, у 1995 годзе супрацоўнікі міліцыі прымянялі зброю ў 630 выпадках, у тым ліку ў 309 — пры прадухіленні ці спыненні злачынстваў, пры спыненні ўцёкаў і масавых беспарадкаў — 20, у якасці меры самаабароны — 63. У выніку прымянення зброі загінулі 6 грамадзян і паранены 41. Прыкладна такія ж лічбы і за 1994 год. Адзначу, што органамі пракуратуры толькі ў 2 выпадках прызнана правамерным прымяненне зброі. Разам з тым летась ад рук злачынцаў пры выкананні службовых абавязкаў загінулі 4 супрацоўнікі міліцыі і 17 паранены.

У заканадаўчым плане прымяненне зброі супрацоўнікамі міліцыі рэгламентуецца Законам Рэспублікі Беларусь «Аб міліцыі». Артыкул 18 закона ўстанаўлівае, што міліцыя прымяняе фізічную сілу, спецыяльныя сродкі і агнястрэльную зброю, калі іншым спосабам выкананне ўскладзеных на яе абавязкаў не ўяўляецца магчымым. У 21 артыкуле закона канкрэтызуюцца выпадкі прымянення зброі. Аднак тлумачэнне палажэнняў артыкула і неканкрэтнасць фармулёвак выклікае цяжкія наступствы. Асабліва выклікае трывогу прымяненне зброі для таго, каб спыніць транспартныя сродкі. Пункт 1 артыкула 21 Закона «Аб міліцыі» дазваляе выкарыстоўваць зброю для спынення транспартных сродкаў шляхам іх пашкоджання, калі вадзіцель стварае рэальную пагрозу жыццю і здароўю грамадзян ці не падпарадкоўваецца законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі.

Толькі ў 3 выпадках пашкоджваўся транспартны сродак, што станавілася прычынай яго спынення, а ў 12 наносіліся цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці, — вадзіцелям у 4 выпадках, а ў 8 — паранены пасажыры, якія не мелі ніякага дачынення да ўчыненага вадзіцелем правапарушэння.

У горадзе Бабруйску вадзіцель аўтамашыны С. Яфімаў не адрэагаваў на сігнал спыніцца. Два ўчастковыя інспектары Ленінскага РАУС сталі даганяць яго на спадарожнай машыне, пры гэтым стрэлілі з аўтамата, цэлячы ў кола машыны, але паранілі пасажыра В. Раманько. Як сцвярджаў потым вадзіцель, ён не бачыў супрацоўнікаў міліцыі і не чуў сігналаў спыніцца. На трасе Гомель—Мінск супрацоўнікі Асіповіцкага ГРАУС стрэлілі з аўтамата ўслед аўтамашыне, якая, па іх словах, рухалася са скорасцю звыш 60 км/гадз. У выніку грамадзянка Л. Сінкевіч, якая ехала са сваім мужам праз тэрыторыю Беларусі ў Калінінградскую вобласць, атрымала раненне правага пляча. Як сцвярджаў вадзіцель, ён таксама не бачыў сігнала супрацоўнікаў міліцыі спыніцца.

На дарозе Воранава—Ліда супрацоўнік ДАІ падаў сігнал спыніцца аўтамашыне ВАЗ, якой кіраваў Жукоўскі, як пасля высветлілася, у стане алкагольнага ап'янення. У аўтамашыне знаходзіліся 4 пасажыры. І калі аўтамашына не спынілася, па ёй быў адкрыты агонь з аўтамата, пры гэтым нанесены цяжкія раненні левага лёгкага пасажыру А. Адамаву.

Прымяненне зброі ў дадзеных выпадках грунтавалася на вышэйназваных патрабаваннях закона і прызнана правамерным, паколькі зброя прымянялася для спынення транспартнага сродку. Але тады пры чым тут параненыя пасажыры, якімі могуць стаць любы з нас, у тым ліку і самі супрацоўнікі міліцыі? Трэба быць снайперам, каб пацэліць у кола аўтамашыны, якая рухаецца з вялікай скорасцю. А калі гэта адбываецца ў Мінску ці іншым вялікім горадзе? Тут і вадзіцеля можна параніць ці нават забіць, ды і іншым людзям нарабіць бяды.

У дзеяннях вадзіцеляў, якія не спыняюцца па запатрабаванню супрацоўніка міліцыі, існуе толькі адміністрацыйны праступак, максімальнае пакаранне за які можа быць прызначана суддзёй, у горшым выпадку — арышт да 15 сутак. На справе атрымліваецца, што па чалавеку, які ўчыніў адміністрацыйны праступак, адкрываецца стральба як па асабліва небяспечных злачынцах. Зразумела, ніхто не стане пярэчыць, каб зброя прымянялася пры затрыманні злачынцаў на самай справе небяспечных, якіх заспелі на месцы злачынства і якія ўцякаюць на аўтамабілі.

Мяркую, што неабходна змяніць закон, паколькі прымяненне зброі для спынення транспартнага сродку фактычна становіцца прымяненнем зброі супраць грамадзян. Зноў жа як наконт правоў чалавека?

Супрацоўнікі пракуратуры, як і супрацоўнікі міліцыі, у адпаведнасці з законам маюць табельную зброю і права на яе прымяненне. Тым не менш пракуратура рэспублікі выступала супраць уключэння ў закон пункта аб прымяненні зброі для спынення транспартнага сродку, калі вадзіцель не падпарадкаваўся законным патрабаванням супрацоўніка міліцыі.

Праўда, заканадаўцы не ўлічылі нашу думку, і вынік быў несуцяшальны нават для саміх дэпутатаў.

Нельга, мякка кажучы, пагадзіцца з пазіцыяй намесніка начальніка кафедры крымінальнага права і крыміналогіі Акадэміі МУС падпалкоўніка В. Мароза, выкладзенай у інтэрв'ю карэспандэнту «Свободные новости-плюс» пад загалоўкам «Ідзе адстрэл міліцыі». Нагадаю, В. Мароз гаворыць: «Мяркую, існуе нейкае дзіўнае спаборніцтва. І для пракуратуры прыцягнуць да адказнасці супрацоўніка міліцыі становіцца ледзь не справай гонару і сумлення. Прыкладаў таму, калі не адрозніваюць паняцці «прымяненне» і «выкарыстанне» агнястрэльнай зброі, шмат...» Асабіста мне дзіўна чытаць такія выказванні вучонага юрыста, які павінен ведаць, што пракуратура, згодна з Канстытуцыяй і Законам «Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь», здзяйсняе нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем законаў, у тым ліку і супрацоўнікамі міліцыі. Дарэчы, В. Мароз не называе ніводнага выпадку парушэння закона пракурорамі пры праверках паведамленняў аб прымяненні супрацоўнікамі міліцыі зброі.

А справай гонару і сумлення як супрацоўнікаў пракуратуры, так і супрацоўнікаў міліцыі, на мой погляд, павінна стаць няўхільнае выкананне патрабаванняў Канстытуцыі і дзеючага заканадаўства.

Калегіяй пракуратуры рэспублікі адзначаны вялікія недахопы, якія дапускаюцца супрацоўнікамі пракуратуры пры расследаванні спраў гэтай катэгорыі. Прынята рашэнне ўнесці ў Вярхоўны Савет адпаведныя прапановы па змяненню шэрага палажэнняў закона, рэгулюючых прымяненне зброі.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора РБ.**

*БЫВАЕ Ж ТАКОЕ!..*

# ЖЫВЫЯ «АРЭШЫНЫ»

Неяк, спяшаючыся на электрычку, я выйшаў ад сваякоў, што жывуць у вёсцы Драчкава Смалявіцкага раёна. Часу заставалася мала, а шлях не блізкі — кіламетры чатыры, таму я гатоў быў ляцець, як кажуць, на злом галавы. Воддаль убачыў жаночую постаць. Жанчына несла з лесу звязку арэшын. Толькі намыліўся шпаркім крокам бегчы далей, але тут жа прыпыніўся. Уразіла тое, што адна з арэшын неяк дзіўна гойдалася ў звязцы. То вісіць плеццю ўніз, то задзіраецца ўгору. А ветрыку — ані-ні. Пачала варушыцца яшчэ адна арэшына: то выгнецца ўверх, то таксама завісне ўніз. Тое, што я ўбачыў, збівала з панталыку, не ўкладвалася ў галаве, выклікала нейкі інстынктыўны жах: арэшыны «паводзілі» сябе як жывыя! Тысячы думак і пачуццяў праімчаліся ў галаве. Падумалася, што гэта галюцынацыя? І мне ўжо было не да электрычкі.

Успомніўся фільм, у якім расліны нападалі на людзей. Мароз прайшоў па скуры: жывыя арэшыны? Што за брыдота? Але, хто ведае: у наш век, калі то там, то тут сутыкаюцца з НЛА, усякае магчыма...

Жанчына падышла бліжэй, і я не сваім голасам, заікаючыся, спытаў: «Цётка Тэкля, што гэта вы несяце?» Напэўна, мой выгляд пацвердзіў значна больш, чым словы. Зірнуўшы ў напрамку майго позірка, жанчына і сама стала белай, як мел. Затым яна шпурнула звязку арэшын на зямлю і спрытна, як маладзіца, сiганула ўбок. «Цьфу ты, трасца», — вымавіла цётка, калі ўбачыла, як са звязкі выпаўзлі вялізныя вужакі і кінуліся наўцёкі.

Вось якія аказаліся «жывыя арэшыны».

**Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ.**

# ТЭРАКТЫ Ў МАСКВЕ — СПРАВА РУК ПРАФЕСІЯНАЛАЎ

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, атрыманай агенцтвам «Аргументы и факты-Новости» ад супрацоўнікаў Антытэрарыстычнага цэнтра (АТЦ), пры тэрактах у тралейбусах 12 і 48 маршрутаў выкарыстоўвалася пластыкавая ўзрыўчатка, што прымяняецца прафесіянальнымі тэрарыстамі. Ні пры праходчыцкай, ні пры іншых будаўнічых работах такой узрыўчаткай не карыстаюцца. Нават малая яе колькасць, аб'ёмам прыкладна з пачак цыгарэтаў, здольна выклікаць выбух вялікай разбуральнай сілы.

# ТАДЖЫКІСТАН, ТРЭЦІМ БУДЗЕШ?

Як паведаміў агенцтву «Аргументы и факты-Новости» старшыня думскага камітэта па справах СНД Георгій Ціханаў, многія палітычныя дзеячы і большая частка насельніцтва Таджыкістана гатовы да аб'яднання з Расіяй і Беларуссю ў траісты саюз. Прэзідэнт Эмамалі Рахмонаў пакуль афіцыйна не выказаўся на гэты конт, але і з ім можна дамовіцца, лічыць Ціханаў. «Калі Таджыкістан будзе не з Расіяй, то ў хуткім часе ён можа прымкнуць да Афганістана ці Ірана, што для нас вельмі нявыгадна», — заўважыў парламентарый.

# КОЛЬКІ ВАЖЫЦЬ МІЛЬЁН ДОЛАРАЎ?

У разгар скандалу, звязанага з затрыманнем спадароў Лісоўскага і Еўстаф'ева, якія спрабавалі вывезці з Белага дома 500 тысяч долараў, прамільгнула інфармацыя аб тым, што грошы былі ў каробцы з-пад торта. Карэспандэнты штотыднёвіка «Аргументы и факты» вырашылі высветліць, які ж павінен быць торт, каб у каробку ўлезла такая сума. Аказалася, што мільён долараў важыць 8 кілаграмаў, так што паўмільёна, на думку кампетэнтных асоб, цалкам мог змясціцца ў каробцы з-пад торта «Кіеўскі». Вопыт работы маскоўскіх руопаўцаў паказвае, што асабліва спрытныя хабарнікі ўмудраюцца распіхаць па кішэнях велізарныя сумы — да 100 тысяч долараў у кожную. Галоўнае, каб купюры былі буйныя.

# КАБ БЫЦЬ ПРЫГОЖАЙ, ЗАЙМАЙЦЕСЯ ЛЮБОЎЮ...

Як паведамляе штотыднёвік «Аргументы и факты», нямецкі гінеколаг Карл-Хайнц Цункер прыйшоў да высновы, што татальная разрадка ў час аргазму вельмі пазітыўна ўплывае на знешні выгляд жанчыны: скура робіцца больш эластычнай, суставы — больш рухомымі, мускулатура — больш моцная. Да таго ёсць і выдатны «пабочны эфект»: секс робіць жанчыну стройнай. Бо пры кожным аргазме «спальваецца» ад 150 да 300 калорый.

# «ЧАЎНАКОЎ» АБАВЯЗАЛІ ПРАХОДЗІЦЬ ФЛЮАРАГРАФІЮ

Цяпер гандляваць на рэчавых рынках горада Яльца Ліпецкай вобласці можна будзе толькі пры наяўнасці даведкі аб флюараграфічным абследаванні. Так мэрыя вырашыла змагацца з распаўсюджаннем туберкулёзу. Такі ж дакумент будуць патрабаваць пры падачы дэкларацыі аб даходах і рэгістрацыі фізічных асобаў. Ну, а тым, хто гандлюе прадуктамі харчавання, не абысціся без поўнага медыцынскага абследавання.

**«АиФ—Новости»**



## СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.01 | 21.29 | 16.28 |
| Віцебск – | 4.44 | 21.26 | 16.42 |
| Магілёў – | 4.50 | 21.18 | 16.28 |
| Гомель – | 4.57 | 21.06 | 16.09 |
| Гродна – | 5.19 | 21.41 | 16.22 |
| Брэст – | 5.26 | 21.35 | 16.09 |

**МЕСЯЦ**

Маладзік 15 ліпеня.

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Юліяніі, Глеба, Фамы

К. Вінцента, Вадзіслава

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па Беларусі воблачнае з праясненнямі і кароткачасовымі дажджамі надвор'е. Тэмпература паветра ў Гродне — 16—18, Брэсце і Мінску — 17—19, Гомелі, Магілёве — 18—20, у Віцебску — каля 20 градусаў цяпла. Як бачым, надвор'е ўстанавілася стабільна сярэдняе: у наступныя двое сутак яно істотна не зменіцца. Уначы будзе 7—12, удзень 15—20 вышэй нуля. Як нам паведамілі, пацяпленне чакаецца пасля 20-га.

